Год IV. Чэрвень. № 6 (41)

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 6.



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.
Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | I, i — I, i. | S, s — C, c |
| B, b — Б, б. | J, j — Й, й. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| C, c — Ц, ц. | K, k — K, к | Š, š — Ш, ш |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | L, l — ЛЬ, ль. | T, t — T, т. |
| Č, č — Ч, ч. | Ł, ł — Л, л. | U, u — У у. |
| D, d, — Д, д. | M, m — M, м. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| E, e — Э, э. | N, n — H, н. | V, v — B, в. |
| F. f — Ф, ф. | Ń, ń — НЬ, нь. | Y, y — Ы, ы. |
| G, g — Г, г. | O, o — O, o. | Z, z — З, з. |
| H, h — Г, г. | P, p — П, п. | Ž, ž — Ж, ж. |
| Ch, ch — X, x. | R, r - P, p. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“
МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.
Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.
Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год IV. | Вільня, Чэрвень 1932 г. | № 6 (41) |
| --- | --- | --- |

## Песьня лучыць!

*„Браты, любіма песьні тон,*
*Што сэрца сумна рве...“*
*КАЗ. СВАЯК.*

На жыцьцё чалавека і цэлых народаў уплываюць чыньнікі надзвычайныя і звычайныя, штодзенныя. Трудна азначыць чыньнікі парадку „надзвычайнага“, бо здараюцца яны рэдка і нерэгулярна. Затое людзкое жыцьцё перапоўнена чыньнікамі парадку „звычайнага“: яны ня б'юць у вочы часта ані сваею прыгожасьцю, ані сілаю, ані разьмерамі, ані чым іншым эфэктоўным. Але міма гэтага іхны ўплыў на ўклад жыцьця ёсьць бязспрэчным і надзвычайна важным Іхнай прыметай ёсьць „шэрая штодзеннасьць“, а сакрэ іхнай сілы выплывае з масавасьці і бязупыннай, хоць і дроб най дзейнасьці.

Да ліку такіх „звычайных“ чыньнікаў, якія масава, а знача — паўсемесна і да таго бязупынна дзеюць на лёс народу, у першую бадай чаргу трэба залічыць п е с ь н ю.

Аб значэньні песьні ў жыцьці народаў сьпісаны цэлыя томы. Пісана было аб ёй і ў Беларусаў. Ня будзе аднак лішнім, калі да гэтага пытаньня вернемся йшчэ раз і пагаворым аб ім у крузе нашай беларускай моладзі. Маем да гэтага свае повады.

Пакідаючы разбор песьні, як такой, нашым музыкам-спэцыялістам, я пазволю сабе тут паказаць на адну толькі прымету песьні: ейную здольнасьць будзіць чалавека, заахвочываць і лучыць яго да супольнай працы.

Як здольнасьць мовы ёсьць выразнай праявай сьвядомай волі ў дасьпяваючай людзкой адзінкі, так песьня ёсьць першай праявай сьвядомага існаваньня народу, нацыі. Песьняры народу гэта першыя ластаўкі ягонага прабуджэньня, а песьня народная — мацнейшая ад людзкой злосьці. Покуль трымаецца ў народзе ягоная песьня — жыве народ, хоць-бы супроць яго спрэгліся ўсе злыя сілы; і наадварот — гіне ў народзе ўсё, калі замірае ў ім свая родная песьня. І тут якраз крыецца сакрэт, чаму не загінуў народ хоць-бы

наш беларускі, калі згубіўшы здавалася-б усё, па трох з лішнім вякох нябыцьця, ускрос да жыцьця на нова: родная песьня, побач з роднай казкай і роднай традыцыяй, не пазволілі нам памерці.

Гэтак было датуль, пакуль нам не давалася, праўда, магчымасьць разьвівацца, але і не накідалася гэтак насільна песьня чужая. Што можа стацца аднак сягоньня, калі варункі зьмяніліся і зьмяніліся выразна на нашу некарысьць?... Непаплатная роль быць прарокам, а тымбольш — прарокам благім. Але лёс палабскіх славянаў або прускіх Літоўцаў за вельмі страшны, каб над ім перайсьці да парадку дзеннага.

З другога ўзноў боку роль роднай песьні ў адраджэньні хоць-бы чэскага народу так вялікая і так слаўная, што нельга не затрымацца над ёй хоць-бы ў двух словах. Былі гэта іменна сьпявацкія гурткі чэскага „Глаголу", якія, пачынаючы ад 1868 г., заплавілі ўвесь край, будзячы — даслоўна! — народ свой да жыцьця, да працы: роўна праз 50 гадоў такой працы, у 1918 г. Чэхі здабылі сабе дзяржаўную незалежнасьць і сягоньня жывуць, як кажацца, прыпяваючы. Родная песьня памагла ім да гэтага ў вялікай меры.

Мы, Беларусы, за вялікі маем доўг перад сваей роднай песьняй у мінуўшчыне, каб не зацікавіцца ейным лёсам у будучыні. А цікавіцца сапраўды ёсьць чым. Доказам гэтага ёсьць хоць-бы апошнія выступленьні хору Бел. Студэнскага Саюзу пад кіраўніцтвам грам. Г. Шырмы. І хто дагэтуль быў „няверным Тамашом" што да красы і цаны нашай песьні, па канцэрце мусіў прызнаць сваю памылку. Песьня наша сапраўды заслугоўвуе быць вынесенай з мроку стыдлівых сялянскіх стрэхаў на агульнае спадзіўленьне найлепшых нават знаўцоў і на ўзмацаваньне нашых народных сіл.

Але хто гэтага даканае?

Даканаць гэтага можа толькі зборная, агульная сіла, перадусім сіла моладзі, што асабліва чуткая на ўсякае харство.

Аканчальным ідэалам мусіла-б быць густая сетка народных беларускіх хораў. Покуль гэта аднак станецца, хай па большых прынамся асяродках, не багатых, праўда, на грошы, але і ня так ужо бедных на вельмі ня раз нават здольных людзей, патворацца сьпявацкія таварыствы, з мэтай культываваньня і прапагаваньня роднай беларускай песьні. Выразна кажу т а в а р ы с т в ы, а ня хоры: хачу гэтым аблягчыць задачу нялічных у нас рэгентаў, прынамся здольных, звальняючых іх ад працы гаспадарча-арганізацыйнай і даючы ім магчымасьць вольна займацца самымі справамі фахова-сьпявацкімі.

Гэтак пастаўленая справа беларускай песьні можа і ў нас даказваць вялікіх рэчаў. А калі прыняць над увагу нашу сучасную расьцярушанасьць ня толькі палітычную, але і культурна-грамадзкую ды параўняць гэта з вынікам

апошняга хоць-бы выступленьня беларускага хору ў Вільні, дык само сабой напрашваецца пытаньне, ці ня ёсьць наша песьня адзіным яшчэ непарваным злучвом (вязьзю) паміж усім — даслоўна! — сучасным беларускім грамадзянствам? І ці ня песьні беларускай суджана ўспружыць нашы агульнанародныя сілы, як было ёй суджана перагрываць наша дагэтуляшняе трыстагадовае з лішнім нябыцьцё? Многа знакоў прамаўляе за тым, што т а к, бо песьня, асабліва песьня н а р о д н а я мае тую дзіўную моц—здольнасьць будзіць, гаіць найбольшыя раны, мацаваць на сілах і *лучыць да агульнае працы.*

Ня выкарыстаць гэтага сягоньня было-б больш як грэхам.

*А Клімовіч.*

---

# Крыху з нашай гісторыі.

## Палітычная дзейнасьць і мэты В. Князя Вітаўта.

Як мы ўжо пісалі, Вітаўт імкнуўся да самастойнасьці і незалежнасьці В. К. Літ.-Беларускага, а калі і лучыўся з Польшчай, дык толькі дзеля даразнай карысьці у пераходным мамэнце, а потым, выкарыстаўшы гэтае злучэньне, ізноў варочваўся да раз намечанай мэты. І так: у саюзе з Польшчай Вітаўт прычыніўся да пэўнай перамогі над заходнім ворагам В. Княства — над крыжаносцамі; пры помачы Ягайлы Вітаўт прыводзіць да пакорнасьці тых князёў, якія проціў яго паўставалі і гэтым цэнтралізуе В. Княства; пры помачы Польшчы ён задумаў заснаваць вялікую ўсходня-славянскую дзяржаву, уключаючую нават Маскву. Аднак пасьля няшчаснай бітвы з Татарамі на рацэ Ворскле Вітаўт мяняе свае пляны, разумеючы добра, што апакараць вялізарныя прасторы на паўдні (Татары) і на ўсходзе (Масква) ён ня здолее, тымболей, што ўнутры самога В. Княства пачаліся спрэчкі і нездаваленьне.

Тым парадкам, які запанаваў у В. Княстве пасьля Гарадлянскай уніі, былі прадусім нездаволены беларускія і ўкраінскія баяры, каторыя, як праваслаўныя, ня мелі тых правоў, якія мелі каталікі-літвіны. Праваслаўныя беларусы і ўкраінцы не дапускаліся цяпер да вышэйшых становішч у дзяржаве, не маглі браць учасьця ў Радзе вялікага князя і гэтым самым не маглі падаваць свайго голасу ў вырашэньні важных дзяржаўных спраў, абыходзячых ня толькі Літвіноў, але Беларусаў і Украінцаў. На аснове Гарадлянскага дагавору праваслаўныя баяры былі адсунуты нават ад выбару В. Князя, каторага мелі выбіраць каталіцкія баяры (пра-

дусім літоўскія). Такім парадкам праваслаўнае (беларускае і ўкраінскае) баярства апынулася ў другой катэгорыі грамадзян дзяржавы, было пазбаўлена тых правоў і тых прывілеяў, якія мелі каталіцкія баяры, у справах падаткаў і дзяржаўных павіннасьцяў. Гэтак пачалася рэлігійная ненавісьць і сварка ўнутры В. Княства паміж вызнавальнікамі дзьвюх вер: праваслаўнай і каталіцкай.

Бачачы такі антаганізм паміж дзьвюма часткамі насельніцтва (а гэтага антаганізму да уніі з Польшчай ня было), Вітаўт пачаў думаць аб царкоўнай уніі. З гэтай мэтай пасылаў ён на Канстанскі сабор (1414—18) мітрапаліта Грыгора Цамблака і некалькіх праваслаўных біскупаў, але тагды гэтыя стараньні не прывялі да ніякага рэзультату.

Другараднае палажэньне ў дзяржаве мусіла выклікаць яшчэ большую неахвоту ў праваслаўнага насельніцтва да новых парадкаў, якія стварыліся пасьля уніі з Польшчай. Бачачы ў гэтай уніі прычыну ўсіх бедаў, праваслаўнае баярства зьненавідзела яе і чакала толькі зручнай часіны, каб пачаць з ею змаганьне. Але пачаць яго за жыцьця Вітаўта яно не магло: за вялікая была павага Вітаўта. Дый усе чакалі, што сам Вітаўт парве сувязь з Польшчай і В. Княства йзноў стане самастойным незалежным ад польскай палітыкі.

Пад канец жыцьця Вітаўта палітычныя падзеі разьвіліся так, што каталіцкае баярства пачало шукаць цясьнейшага саюзу з праваслаўным. А было гэта з тэй прычыны, што Вітаўт задумаў каранавацца каралеўскай каронай. У гэтым ягоным намеры паддзяржалі яго літоўскія (каталіцкія) князі, баяры і каталіцкае духавенства. Каранацыя В. Князя мела паставіць Літ.-Беларускую дзяржаву нараўне з Польшчай, і падняць з таго ўніжэньня, у якое папала яна дзякуючы уніі з Польшчай. Ягайла на зьезьдзе ў Луцку, пад націскам нямецкага цэзара Жыгімонта, даў быў спачатку згоду на каранацыю Вітаўта, але зараз потым узяў сваю згоду назад. У пісьме да Вітаўта Ягайла выясьняў, што каранацыя ня дасьць нічога добрага, а толькі прычыніцца да сваркі пажіж Літвою і Польшчай, бо Літва па сьмерці Вітаўта захоча выбраць сабе новага караля супраць волі Палякаў.

Адказ Ягайлы прывёў да вялікага гневу літоўскае баярства, а прадусім Вітаўта — і Вітаўт, разам з літоўскім баярствам, пастанавіў адбыць каранацыю, ня гледзячы на супрацівы Ягайлы і Палякаў. Але каб даканаць гэтага вялікага чыну, трэба было пашукаць саюзьнікаў — і гэтых саюзьнікаў літоўскае баярства знайшло ў беларускім насельніцтве, якое з вялікай ахвотай паддзержывала ўсе спробы зрыву цяжкай уніі з Польшчай. Дзеля гэтага ў назначаны на каранацыю дзень зьехалася мноства баяр ня толькі з Літвы, але і Беларусі. Але ім ня выпала пабачыць каранацыі свай-

го князя, бо палякі пераналі карону, якую вязьлі Вітаўту паслы ад цэзара Жыгімонта і стары Вітаўт памёр у 1430 г., не дачакаўшы каралеўскай кароны. Летапісец так апісвае гэтую падзею: „Ляхове, ня жычыўшы кароны Літве, карону тую адабралі ад іх (паслоў цэзара) і расьсекшы яе папалам прылажылі да кароны біскупа кракаўскага, каторая і цяпер пры замку і касьцеле сьв. Станіслава ёсьць."

Дык зьехаўшымся баярам, замест каранацыі, трэба было выбіраць новага князя. Ягайла сам хацеў-бы ўзяць кіраваньне В. Княствам у свае рукі, але баярства і слухаць аб гэтым не хацела. Тагды праваслаўныя баяры выставілі свайго кандыдата на Вялікага Князя, а гэтым кандыдатам быў Сьвідрыгайла Альгердавіч, брат Ягайлы, які і быў выбраны Вялікім Князем. Але аб гэтым другім разам.

Цяпер, бяручы пад увагу вялікае значэньне дзейнасьці Вітаўта для В. Княства, мы пастараемся ссумаваць гэту дзейнасьць.

1) Прадусім Вітаўт стараецца вярнуць Вялікаму Княству самастойнасьць і незалежнасьць, утрачаную праз Крэўскую унію з 1385 году. Пры гэтым Вітаўт многа траціць творчай энэргіі на адрабленьне таго, што зрабіў Ягайла .

2) Ва ўсходняй палітыцы Вітаўт спачатку імкнецца да апанаваньня татарскага і маскоўскага ўсходу; дзеля гэтага акружвае палітычна Маскву (Ноўгарад і Твер ад поўначы, а Рязань ад поўдня—былі ў залежнасьці ад Вітаўта) і разам з гэтым стараецца дзяліць і перамагаць Татар. Аднак скора кідае ўсходнюю палітыку і зварачваецца на захад, стараючыся адначасна сцэмэнтаваць сваю дзяржаву ўнутры, каб потым пашырыць яе граніцы на ўсход.

3) Вітаўт паддзержывае сувязь з захадам і заходняй культурай і хоча стварыць на ўсходзе Эўропы вялікую і сувэрэнную дзяржаву, якая магла-б з аднаго боку выдзержаць націск Польшчы, а з другога боку — Татараў і Масквы. Думка Вітаўта праводзілася за ягонага жыцьця, пасьля-ж ягонай сьмерці ня было вялікіх людзей, каторыя змаглі-б дальш ідэю Вітаўта праводзіць у жыцьцё. Вялікая спадчына па Вітаўце не знайшла вялікіх насьледнікаў і ідэя стварэньня на ўсходзе Эўропы вялікай літоўска-беларуска-украінскай дзяржавы памёрла разам з сьмерцяй Вітаўта. Ягоныя наступнікі ўжо не маглі так шырока абняць палітычных гарызонтаў і заўсёды зварочваліся да уніі з Польшчай. А ідэю Вітаўта падхваціў 300 гадоў потым расейскі цар Пётр Вялікі, каторы з Маскоўскай дзяржавы творыць Расейскую імпэрыю і пачынае свабодна хадзіць па Літве, Беларусі і Украіне, якія Ягайла далучыў да Польшчы.

Над палітыкай Вялікага Вітаўта павінен прызадумацца кожны Беларус, які хоча выпрацаваць правільную палітычную лінію для свайго краю.

В. Г.

# З падарожы па Палесьсі.

## Сарны — Хінач.

Ад м. С. да Сарнаў 35 клм. Здавалася-б, што такую падарож можна праехаць у працягу 3—4 гадзін, але на Палесьсі гэта немагчыма таму, што за гадзіну праедзеш больш менш 4 клм. Гутарыць едучы вельмі небясьпечна, бо не агледзішся як можаш сам сабе адкусіць кусок языка: рытвы і карэньні дрэў перарэзваюць вузкую, напалову заросшую травой дарогу. Дарога цяжкая і ўтомная, але прыемная для таго, хто першы раз апынецца ў гэтай Эўропэйскай Афрыцы — на Палесьсі.

Амаль да самых Сарнаў не сустракаюцца асады паляшуцкія.

Паабапал дарожкі, якая вывіваецца, быццам вужака, бачым манатонны вобраз Палесься: лясы, заросьлі, падмоклыя сенажаці і рэдка (бліжэй р. Случа) выдмовыя паляны.

Была мусіць гадзіна 1-я па паўдні, як мы прыехалі ў Сарны. Сарны — гэта паветавае мястэчка, якое некалькі гадоў перад Сусьветнай Вайной разбудавалася, будучы перад тым звычайнай палескай вёскай. Разбудавалася яно — гэта мястэчка, дзякуючы правядзеньню і скрыжаваньню тут стратэгічных жалезных дарог, якія лучаць усход з захадам і поўнач з поўднем.

Жыхары гэтага мястэчка складаюцца ў 80 прац. з жыдоў, ў 7 прац. з аўтахтонаў-паляшукоў, каля 5 прац. урадаўцаў, наехаўшых палякаў і каля 8 прац. расейскіх манархістаў. Гэтая апошняя частка насельніцтва даволі добра зарганізаваная, а лучыць іх адна супольная „ідэя", — успаміны аб прошлым і цяжкія ўздыханьні і мроі аб „Единой и неделимой Матушке России". Гэтая-ж катэгорыя насельніцтва зьяўляецца паразітам на ўкраінскім целе. На ўкраінскім Палесьсі культурная праца спатыкае даволі вялікія труднасьці, бо гэтыя вось недабіткі мінулага маскоўскага царызму вельмі перашкаджаюць у працы. Несьвядомае праваслаўнае насельніцтва палескіх местаў і мястэчак русыфікуецца пад уплывам чарнасоценскага маскоўскага духавенства і астаткаў „прежней роскоши". І такім чынам украінская культурная праца знаходзіць грунт толькі на вёсцы і то з вялікім трудом пасуваецца, бо паляшук надта консэрватыўны і неахвотна прымае новае, хоць нават сваё роднае.

Паляшук жыве прадзедаўскімі традыцыямі і гэтыя традыцыі перадае наступнаму пакаленьню.—Для пацьверджаньня вышэйсказанага (г. зн. русыфікацыі мястэчкаў) можа служыць уласная спасьцярога. Калі знойдзешся ў палескім

мястэчку, то чуеш расейскую мову ў 70 прац. ад мясцовага насельніцтва, бо-ж і жыды („інтэлігенцыя“) гавораць тут на вуліцы толькі парасейску. Паляшуцкі дыялект пачуеш толькі ад паляшукоў, якія прыходзяць у мястэчка.

Вонкавы выгляд мястэчка Сарнаў, як на палескія варункі, даволі сымпатычны. Разбудавана яно на раўніне і выгляд з лёту птушкі мае неправідловага кола, або концэнтрычны. Вуліцы шырокія і дамоў шмат мураваных, навейшага будаўнічага стылю. Недалёка ад цэнтру места знаходзіцца жалезна-дарожная станцыя; на паўдзённы заход ад станцыі — вялікі рынак, а зусім блізка ад станцыі — прыгожы парк. Тут мне прышлося даўжэй пабыць, бо чакаў я на цягнік. Седзячы ў парку я прыглядаўся, як спацэравалі гімназісткі з гімназістамі. Прыглядаўся на гэту моладзь і рабіў вывады: паляшукі яны ці не? — і даходзіў да перакананьня, што не. Гэта дзеці ўрадаўцаў, замажнейшых мяшчан, палескіх паноў і маскоўскіх манархістаў. Гутарылі яны або папольску, або парасейску.

У гэты дзень у Сарнах адбываўся вялікі кірмаш. Цэлы рынах выглядаў як макам усееены; найбольш відаць было чырвонага колеру: жанчыны і дзяўчаты былі прыбраўшыся ў людовыя строі. Чырвоныя хусткі на галовах рабілі ўражаньне цьвітучага маку ў гародзе. Тут скрозь чулася толькі паляшуцкая мова; мяшчане, а нават і паліцыя гутарылі гэтай мовай, бо ў іншай трудней было-б паразумецца з паляшукамі.

Найбольш мяне цікавілі на кірмашы паляшуцкія вырobы: гаршкі палавога колеру, з гліняна-чырвоным арнамантам, дужа цікавыя кашыкарскія і бандарскія вытвары. Яшчэ адно мне вельмі кінулася ў вочы, гэта дужа характэрныя палескія жабракі, ад песьняў якіх аж рэха разыходзілася па рынку. Гэтыя жабрацкія песьні дапаўнялі кірмашны шум. У нас такіх жабракоў па Сусьветнай Вайне амаль не сустракаецца. Палескія жабракі прадстаўляюць як-бы соцыяльную частку мясцовага насельніцтва; тут жабракі з дзедапрадзеда, хоць і некалекія і проста здольныя да працы фізычнай. Вось гэтыя „завадовыя“ жабракі, сем'ямі пасеўшы на вуглох вуліц, хорам выпеіваюць розныя рэлігійныя паляшуцка-жабрацкія песьні. Толькі адзін сьляпы жабрак ня меў свайго „хору“, — сядзеў ён асобна і граў на ліры, прыпяваючы хрыплым басам. Ніхто на яго, як і на іншых жабракоў, не зварочываў увагі, але калі пачаў я яго фатаграфаваць, то гэтулькі набралася людзей навакола нас, што нельга было прайсьці па вуліцы. Запрапанаваў я гэтаму жабраку, каб ён прадаў мне сваю ліру, але ён катэгарычна адказаў, што не прадасьць, бо „ліра — то ёсьць мой хлеб, мая карміцелька“.—Палескі кірмаш гэта выстаўка вытвараў паляшуцкай мазольнай рукі...

Каля гадз. 4-тай па паўдні пакінуў я даволі цікавае м. Сарны. Каб даехаць да с. Хіначы, трэба было затрымацца ў м. Дубравіцы і тут чакаць на вузкакалейку 26 гадзін, бо цягнік адыходзіў туды толькі два разы ў тыдзень. М. Дубравіцы распалажана на вельмі прыгожым месцы: паўночна-ўсходні бок мястэчка акружвае прыгожая рака Горынь. Дубровіцы ня выглядалі на палескае мястэчка, бо яно пабудавана на ўзгорках, якія абрывіста заканчываюцца ля ракі. Ёсьць тут царква, і касьцёл дужа прыгожы, баракавага стылю, пэўна-ж не адна ёсьць і сынагога, бо і тут жыды становяць каля 80 прац. насельніцтва. Мястэчка гэта ў свой час, відаць, было даволі рухлівае і багатае, але сяньня яно сталася чамусьці глугім і бедным. Трудна сказаць да якой народнасьці — апрача жыдоў — пачуваюцца жыхары гэтага мястэчка; часта самі ня ведаюць хто яны. Толькі пару асоб спаткаў я, якія былі сьведамымі украінцамі — сельробамі, ды і тыя ніякай культурнай працы не праяўляюць. „Стшэльцы“ тут ёсьць таксама. Перад Урадамі Грабскага была тут украінская школа і дзякуючы гэтаму тое-сёе рабілася.

Каля гадзіны 8-ай на раніцы ад'ехаў я з Дубравіцы вузкакалейкай у Хінач. Падарож трывала даволі доўга, бо гэтая „калейка“ ехала вольна, — вязла яна жалезныя шпалы, а пасажыраў было толькі двух: я і нейкі сэквэстратар — паляк з-пад Лодзі. Краявід ад Дубравіцы да Хіначы розьніўся ад краявіду агульнага палескага: тут мала сустракалася лясоў і заросьляў. Бачым тут поле засеенае пераважна просам і грэчкай і выдмы, па якіх вецер ганяе мяккі пясок, быццам сьнег. Мясцамі цэлыя гурбы навеены такога пяску.

Гадзіна была першая па паўдні, як я прыехаў у Хінач. Станцыя Хінач знаходзіцца ў лесе. Невялічкі жалезнадарожны дамок, некалькі хацінак жыдоўскіх і адзін новы прыгожы дом амэрыканца. Ад станцыі да сяла было мусіць пару кілёмэтраў. Дарога да гэтага сяла вяла праз яравое поле і тут паляшукі працавалі. Зьвярнула маю ўвагу палявая-паходная калыска, пастаўленая на ніве; у калысцы плакала дзіцё, а далей за горкай кабеты рвалі лён. Яны мне вытлумачылі, у якой хаце жыве найстарэйшы і найразумнейшы паляшук.

**Фр. Цяцерскі.**



# Ab kulturnych formach žyćcia.[6)]

*Jak apranucca.*

Ab vopratcy była ŭžo mova anahdaj, kali razhladałasia sprava praŭdzivaj i niepraŭdzivaj kultury („Шлях Моладзі" № 2—32 h.). Tut zatrymajemsia nad hetaj spravaj krychu bolej.

Rasiejskaja prykazka kaža, što „pa adziežy spatykajuć— pa rozumie prapuskajuć". Ale heta patrabuje na hetulki być papraŭlenym, što redkija tolki ludzi „biaz rozumu" majuć praŭdzivy gust da vopratki: hety „gust" najčaściej vyrablajecca z časam, z raźvićciom razumovym.

Hałoŭnaje — kab vopratka była **čystaj i cełaj** (choć zašytaj). Dalšaj spravaj jość padabrać čaści vopratki tak, kab adpaviadali danamu miejscu, času i asobie. Pahavorym bolš ab hetym za miesiac.

A siahońnia pryhledźmasia da niasłušnaści i prosta škodnaści zakaraniŭšahasia ŭ nas pahladu, što najlepšaja vopratka — heta vopratka „kramnaja". Niapraŭda, sto, tysiača razoŭ niapraŭda! Hetu chvarobu ŭmovili nam roznyja fabrykanty i ichnyja słužki, kab vymanivać z vioski ciažka zapracavany hroš. Našy samadzieły słaviacca na cely śviet, ale ŭ nas samych nie znachodziać čamuści ani pryznańnia, ani achvoty. Znajem tolki čužoje chvalić, a svajo hanić. Heta śled našaha niavolnictva i ad jaho treba jak-maha chutčej atreścisia.

Aprača moralnaj škody, jakuju prynosić nam „kramnina", „vydojvaje" jana našu viosku i materyjalna. Sotni tysiačaŭ zdarovych ruk siadzić siahońnia na vioscy biaz pracy, usio što ŭ haspadarcy z ciažkim trudom vyhadujecca, vyraście, — pradajecca pośla za biazcen. Ale jak-ža mała dadumoŭvajucca jšče našy ludzi svoj čas i pracu skarystać na toje, kab vyrabić sabie za hety čas doma vopratku i nia vykidać darma kryvavaha hraša na kuplanuju kramninu. Ciažka, a časta i niemahčyma vymahać hetaha ad tych ludziej, što nia majuć ziamli. Ale dla haspadaroŭ-ziemlarobaŭ heta pavinna być kaniešnaściu.

Na viosku musić viarnucca aviečka, kab dać aŭčynku na ciopły i vyhodny kažuch, voŭnu — na burnos (jarmiak), rukavicy i škarpetki. Treba bolš siejać lonu, ale nie na prodaž, a na pryhatavańnie tkaninaŭ: dyvanoŭ, rušnikoŭ, nastolnikaŭ dy paścielnaha i asabistaha chuścia (bializny).

Dzie padzielisia našy pryhožyja vyšyvanyja sаročki (kašuli) — u mužčyn i žančyn, dzie piostryja samadziałovyja žanočyja ŭbory, jakimi tak słušna siahońnia hanarycca zahranicaj nia tolki vioska, ale i miesta?! Zahranicaj, pieradusim u Čechasłavaččynie, Juhasłavii, Švajcaryi, u niamieckich i inš. krajoch, u Ukraincaŭ, a taksama mała-pa-mału i ŭ Polščy na

ŭsiakich uračystaściach najadpaviadniejšym uboram jość vopratka samadziałovaja, z vyšyvańniami. Chto bačyŭ heta, kožny pryznaje, što takaja vopratka vielmi pryhožaja, vyhodnaja, a na siahońniašnija ciažkija časy — vielmi razumnaja.

Čas najvyšejšy byŭ-by, kab i naša, pieradusim viaskovaja moładź, zakinuła brydki zvyčaj vykidać apošni hroš na biazvartasnuju „kramninu" i pačała demonstracyjna apranacca ŭ vyraby svaich mazalistych ruk.

I strojna heta było-b i razumna! *V. S.*

# Літэратурны аддзел.

**V. A.**

## BIEŁARUSKIJA CYMBAŁY.

III.

Pakinuŭšy miłyja vioski,
Niasu dla mieščan hety słovy,
A žychar ja sam miestačkovy.
Biahu naciańki praz pałoski.

U miastečku kirmaš vializarny:
Znajšoŭ ja ich vielmi zaniatych;
Harmidar u dušach, u chatach,
A duch tam zatruty i marny.

Zasieŭ ja pasiarod kirmašu;
Chłapčuki mianie abstupili,
Dražnili i čuć nie pabili —
Za pieśniu, za rodnu, za našu...

Miaščanie mianie jak paznali,
Śmiajaliś, klalisia strašenna;
Kazali: „Zdurnieŭ, zrabiŭ drenna!"
Zubami tako-ž skryhatali.

Ja zmoŭk, zaniamieŭ, skamianieŭšy,
A serca zanyła ad bolu,
Da ich nie pramoviŭ nikoli
I dumaŭ, u kutočku zasieŭšy.

Cymbałaŭ nia moh ja datknucca,
Bo stohnuć, až płačuć, hałosiać;
I rodnaj melodyi prosiać;
Varoža k čužoj adazvucca.

Ja baču paradki takija,
Zadumaŭ cymbały zakinuć:
Niachaj-ža maŭčać, ci zahinuć!...
Dy serca ŭsio nyje i nyje...

IV.

Niejak mnie nia śpicca u nočy,
Bo pieśnia dušu razryvaje,
Ci anieł pry łožku ihraje,
Jak tolki źlipajucca vočy.

Dyk hej na pole i na vioski!
Hdzie rečańka bystra struicca,
Hdzie zbožža na soncy irdzicca —
Šukaju znajomaj darožki.

Zdaloku darožańku baču:
Jana, choć kryvieńka i vuzka,
Miž krasak pryhoža, jak stužka.
Ad ščaścia śmiajusia i płaču.

Iznoŭ razyhraliś cymbały:
Znajšłasia i nota daŭniejša,
Hłybiejša, jašče pryhažejša,
Svaja — i dla Božaje chvały!

Ciapier nie bajusia nikoha:
Bratoŭ svaich rodnieńkich znaju,
Im praŭdy ziarno adkryvaju,
Viadu da lubovi, da Boha.

Hej, družna! Braty jak žbiarucca —
My kamień vuholny pałožym,
My hora-biadu pieramožam!
Dakul-ža, dakul budziem hnucca?!

Ajčynu my volnu zbudujem:
Chaj kožny svoj kamień pryłoža!
Ubačyć — i Boh nam pamoža.
Dziaciej na ludziej uzhadujem.

## СЬМЕРЦЬ ІВАНКІ.

* * *

Немец да свае ахвяры падышоў паволі,
Труп часамі уздрыгаўся ад страшэннай болі,
Рана макам няйпякнейшым на грудзёх зіяла,
Кроў ў калужынку шнурочкам тоненькім сплывала;
Так здавалася, што кветка вырасла на сэрцы.
Мо'ў любоў да маткі сына працьвіла па сьмерці.
Немец разглядзеў паперы, фатаграфы вынуў,
Паглядзеў, забраў з сабою — а мраца пакінуў.
Сам пайшоў ў сваю дарогу, ад ахвяры далей.
Стала ночка апускацца няпрыметнай хваляй,
Лес цямнейшым нейк прыдаўся, ўжо зьмяркацца стала,
Раптам сьцежка пад нагамі ў гушчары прапала.

Ноч крылом лес ахапіла, цемра сьвет прыцьміла,
Дзесь далёка, праз глыб лесу, зорка засьвяціла.
Бліжай, бліжай, хатку ўбачыў пасярод бур'яну,
Бліжай падыйшоў, паслухаў, пад вакно заглянуў:
Ў пакасіўшайся той хатцы, пад сьвятым абразам,
Моляць Бога на каленях матка з дочкай разам.
„Божа мілы, Божа добры, моц Твая магутна,
Хай ня церпіць сэрца маткі горка і пакутна,
Памажы, мой мілы Божа, вярнуціся сыну,
Прыхавай яго цудоўна ў чорную гадзіну,
Ты ўсесільны, ўсемагутны, моцны, мілы Божа,
Хай міне яго хвароба і страла варожа,
Можа ён цяпер ў акопах нас дзьвёх ўспамінае,
Можа ён прашыты куляй цяжка дзе канае,
Каб-жа ты вярнуўся сынку, што-ж бы больш хацела?
Дзе-ж ты сынку, сынку родны? — чуць ня абамлела... —
Абазьвіся, ці жывы ты... — на зямлю упала...
Дочка к матцы спахвацілась, ачуцьваці стала.

VII.

На той час пад вакном хаты немец быў ў зьдзіўленьні,
Увесь дрыжэў, як ліст асіны, пры такім здарэньні.
Ён пазнаў, хто гэта плакаў, хто маліўся Богу,
Зразумеў, што у факце гэтым Бог змыліў дарогу.
Сам ня верыў, прыглядацца стаў на фатаграфі' —
Ясным стала рэч сьвятая: ён да маткі трафіў.
Доўга меў перад вачыма той няшчасны хутар,
І шаптаў сабе паціху „Wo ist meine Mutter"?*)

Язэп Вількоўскі.

---

# Пятручок.

Пятручок быў старанны хлопчык. Вучыўся ён добра і так ёмка ўсё разумеў, што вучыцель ня мог нацешыцца з яго панятлівае галоўкі. Адно, бедненькі, ніяк ня мог патрапіць добра гаварыць папольску. Як прыдзецца яму штокольвечы сказаць папольску, дык яго язычок неяк зьдзервянее і аніруш, як калодачка ў роце зробіцца. І хочацца яму сказаць і ведае што трэба сказаць, а язычком дык а ніпаварушыць. Раз са злосьці дык Пятручок аж да крыві прыкусіў свой непаслухмяны язычок.

Затое і добрага вучыцеля меў Пятручок. Бывала, як убачыць тое вучыцель, што ў беднага хлопчыка ўжо і сьлёзкі набягаюць на вочах ад труднасьці польскае гутаркі, зьлітуецца дый кажа: „Дык кажы ўжо, Пятручок, пасвойму.

*) Гдзе мая маці?

Хай цябе Бог!—І пачне тады Пятручок сакатаць, уперад па-маленечку, заікаючыся—то пальчыкам у носе падлубае, то кулачком вочка вытра; а потым, як разгаворыцца, дык і ўпынку яму няма. Ужо яго і вучыцель прыпыняе і хлопчыкі шчыпаць пачнуць, а ён усё гаворыць.

І адкуль у яго ўсё гэта бярэцца? Як гэта ўсё здаецца магло і зьмясьціцца ў яго маленькай галоўцы? То ён пра птушачак расказвае, што яны ўмеюць гаварыць між сабою, то пра конічкі, што скачуць па сенажаці і хорашанька сьпяваюць. А як сонейка горача прыгрэе, дык ім ножкі сьвярбяць: яны пачнуць тады скоранька ножачку аб ножачку чухаць, а іх ножкі шурпаценькія, дык і выходзіць галасок, быццам песенька. Альбо кажа: „траўка і тая галасок выдае, асабліва, як трохі большанькая і вецерок дзьмухне, дык яна і шэпчацца паціханьку, быццам пацеры гаворыць, каб Божанька дожджычак паслаў." І шмат, шмат чаго іншага ён, Пятручок, тады нарасказвае.

Але вось не спадабалася некаму, што ў іх школцы быў такі добры вучыцель. Саслалі яго недзе далёка, на Паморʻе, а на яго месца прыслалі другога. Такі ўжо быў элегантны франт гэты новы вучыцель, так хораша дзеўкам тлумачыў, што яны яго нічагусенькі... не разумелі. А людзі казалі што быў ён вучоны, знаўся і з французскай граматай.

У той час Пятручок ўжо быў у чацьвертым аддзеле. Ў новенькай кашулячцы, у хадачкох з раменнымі аборамі, сядзіць ён найменшанькі ў куточку новае клясы. Усё яму тут падабаецца і падлога нечым наглянцаваная і новыя харошыя лаўкі і абразы на сьценах, а асабліва яму прыглянулася клямка ў дзьвярох. Такая харошая, бліскучая, казаў бы з чыстага золата. І хочацца Пятручку, каб і ў іх хаце была такая харошая клямка.

Вучыцель тымчасам распытваў вучняў, што яны ўмеюць, чаго іх навучыў былы вучыцель. Нешта нават і запісваў, дастаўшы з кішані харошанькую, у скурку апраўленую кніжачку. І вось, трэба-ж было, натрапіў на Пятручка якраз у тую хвілінку, калі той быў заняты думкай, адкуль узяць такую харошую клямку ў іхнія дзьверы. „А ты, малы,—адазваўся вучыцель — умеш уламкі?"— „Няма ў нас, паночку, клямкі" — адказвае спужаўшыся Пятручок. — „Я пытам, чы умеш уламкі?"— „У нас дзьверы на круцёлачку зачыняюцца" — гаворыць Пятручок, ні жывы ні мёртвы ад страху. „Марш до конта наколяна, быдлен!" — зароў харошанькі, элегантны вучыцель на пабялеўшага з перапалоху Пятручка.

Пашоў бедненькі Пятручок, стаў на свае худзенькія каленцы і думае: „Божанька, ці-ж я вінаваты, што ў нас няма такое харошае клямкі?!"

**Янка Невук.**

# Ab elektryčnaści. 3)

(*Telehraf, telefon, radyjo*).

U elektrotechnicy razroźnivajucca dźvie formy elektryčnaha toku: stały i źmienny. Kali tok elektronaŭ pierapłyvaje ŭ drocie biazupynna ŭ adnu staranu, tady zaviecca jon tokam stałym; kali-ž kirunak toku elektronaŭ peryjodyčna mianiajecca, tady nazyvajecca jon tokam źmiennym.

Źmienny tok, jak i stały, vytvarajecca adpaviednymi dynamomašynami i moža być stasavany da matoraŭ, elektryčnaha ahravańnia i aśviatlańnia, pryčym taki tok źmianiaje svoj kirunak u pravadoch (dratoch) 50 razoŭ na sekundu. Razhledźmo ciapier zastasavańnie toku stałaha i źmiennaha paasobna.

---

Vielmi važnaj prymietaj stałaha elektryčnaha toku jość mahčymaść jahonaha zapašeńnia (źbirańnia u zapas) pry pomačy h. zv. akumulataraŭ. Dźvie vałavianyja blaški ŭstaŭleny ŭ načyńnie z vadoj, zakvašanaj sierkavym kvasam, pradstaŭlajuć akumulatar u najpraściejšaj formie. Puścim praz takija blaški tok stały (dałučajučy da blašak draty, davodziačyja toj tok); pa niejkim časie, jak vytvarycca na adnej z blašak ciomna-čyrvonaja masa ($PbO_2$), tok pierarviom, a dałučym da blašak lampku z elektryčnaj latarki: — lampka zaśviecić, h. zn., što elektryčnaja enerhija astałasia ŭ akumulatary i moža być vykarystana zaraz, abo pa niejkim časie (da 4 miesiacaŭ). Kab atrymać silny tok, łučacca bolšyja kolkaści akumulataraŭ u adpaviedny sposab. Asablivaje značeńnie majuć jany pry dastavie toku na aśviatlańnie: ciahnikoŭ, aŭtamabilaŭ i samalotaŭ.

Časta jšče stasujecca stały tok da pazałočvańnia, miedziavańnia, niklavańnia i inš. Vyjaśnim tut dziejnaść toku prykładam miedziavańnia. Raspuścim u šklancy vady kavałak „siniaha kamienia“ ($CuSO^4$) i ŭstavim u šklanku miednuju i žaleznuju blašku; kali dałučym da blašak adpaviedna draty, davodziačyja stały tok, to pa karotkim časie na žaleznaj blaščy vydzialicca miedź (byŭšaja ŭ sinim kamieni) i pakryje jaje. Padobna pastupajem pry pazałočvańni, niklavańni i sierabreńni pradmietaŭ.

Prychodzim ciapier da važnaha zastasavańnia stałaha toku ŭ telehrafie. Pry jahonaj pomačy, jak viedajem, možna pierasyłać viedamaści (telehramy) na adlehłaści sotniaŭ i tysiačaŭ kilometraŭ z vialikaj skoraściu.

Zasada dziejańnia telehrafu nastupnaja: Na stancyi I, z katoraj vysyłajecca telehrama, znachodzicca elektryčnaja bateryja (z mnohich batarejek, padobnych jak u elektryčnaj kišankovaj latarcy, tok z katoraj davodzicca da II stancyi dvuma dratami, hdzie dałučany jany da kancoŭ drotu izalavana-

ha, abkručanaha na žaleznym prutku. Na stancyi I adzin drot pierarvany h. zv. klučom. Kali naciśniem rukoj spružynku kluča, tady drot pierarvany złučajecca, a tok z batarei biažyć dratami i na stancyi II, pierapłyvajučy praz drot abkručany na žaleznym prutku, robić prutok mahnesam; toj prycia-hivaje štabku žaleza na spružynie, a z joj złučanaje piaro pi-ša na taśmie papiery (pierasuvanaj specyjalnym mechaniz-mam) rysku abo kropku, zaležna ad taho, jak doŭha kluč na stancyi I byŭ naciśnieny. Pry zvalnieńni nacisku z spružynki kluča, tok pieraryvajecca, prutok žaleza na stancyi II piera-staje być mahnesam i spružynka adciahivaje štabku z piarom ad taśmy papiery. Z rysak i kropak ułožana abeceda (Mor-se'a), katoraj i karystajucca pry telehrafavańni (słova „tele-hraf" napisana hetaj abecedaj vyhladaje nastupna: — . . — . . . . . . . — . . . — . . — .).

Na mahnesujučym dziejańni toku apirajecca budova mnohich pryładaŭ, naprykład zvanka i elektryčnaha hadzińnika

---

U hutarcy ab zastasavańni elektryčnaha toku *źmiennaha* nasampierš razhledzim telefon. Jak važnym i zacikaŭlajučym vynachodkam jon źjaŭlajecca, nie patrabujem chiba-ž dadavać: karystajučysia telefonam možna pierasyłać na vialikija adleh-łaśći nia tolki umoŭnyja znaki (jak u telehrafie), ale movu, śpieŭ i muzyku.

Praces telefanavańnia ŭ karotkich słovach vyhladaje he-tak: Ad stancyi I (skul pierasyłajecca hutarka) jduć dva draty z bateryi (takoj, jak u telehrafie) da stancyi II. Na stancyi I adzin drot pierarvany, a kancy jaho dałučany da plitak h. zv. mikrofonu. Mikrofon heta dźvie cieńkija vuhlovyja plitki (u specyjalnaj apraŭcy), miž katorymi znachodzicca drobna-toŭ-čany vuhol. Na druhoj stancyi draty, davodziačyja tok z pier-šaj, dałučajucca ŭ telefoničnaj słuchaŭcy da kancoŭ izalava-naha drotu, abkručanaha na stalnym prutku (najčaściej jość užo mahnesam), vielmi blizka upapiarok prutka ŭmacavana cieńkaja žaleznaja blaška. Kali na stancyi I havorym u mi-krofon, vuhlovaja plitka adpaviedna dryžyć (padobna, jak he-ta čujem datknuŭšy rukoj šyi pry hutarcy) i mienš ci bolš naciskaje drobnyja ziarniatki vuhla pad joj i ŭ takt pierapuskaje elektryčny tok z bateryi. Hetakim čynam hutarka, śpieŭ ci muzyka zamieńvajecca ŭ adpaviedna dryžačy tok (słabiejšy ci macniejšy, napieramien) u dratoch, idučych da stancyi II. Hety tok, pierabiahajučy praz drot abkručany na stalnym prutku, u takt dryžańnia pieramianiaje jaho ŭ macniejšy ci słabiejšy mahnes i toj, pryciahvajučy macniej ci słabiej ža-leznuju blašku, hetym samym pabudžaje jaje da dryžańnia. I hetym sposabam žaleznaja blaška „havoryć", „piaje" abo „hraje", što čuvać dakładna, kali pryłožym vucha da słuchaŭki.

U praktycy słuchaŭka i mikrofon spałučanyja miž saboj

u „telefoničnaj trubcy", dyk havoračy da asoby, jakaja znachodzicca ad nas na inšaj telefoničnaj stancyi, možam adnačasna słuchać, što jana havoryć da nas.

Dumka ludzkaja, u pachodzie da zdabyvańnia novych vynachodkaŭ i prastoru, nie zdavoliłasia na't takimi pryładami, jak telehraf i telefon i žadała čahoś daskanalšaha, a dasiahnuła svaich metaŭ u vynachodku *radyja* (u 1897 h.). Stancyi telehrafičnyja abo telefoničnyja spałučajuć draty, a stancyi radyjovyja łučyć toje, što łučyć usio z usim — prastor.

Ab technicy radyjo-telefanavańnia skažam tolki ŭ haloŭnych zarysach. Na vysyłajučaj stancyi havorycca ŭ mikrofon; jak u telefonie, hołas źmieńvajecca na adpaviedna dryžačy tok, katory ŭzmacniajecca h. zv. „katodavymi lampami" i pierarablajecca na tok źmienny bolš miljona razoŭ na sekundu. Hety źmienny tok davodzicca da drotu metalovaha, zaviešanaha na dvuch vysokich słupoch — anteny, ad čaho tvoracca h zv. „elektro-mahnetyčnyja chvali", jakija jduć u prastor z skoraściu 300.000 klm.

Kinuŭšy kamień u staŭ, bačym što raz šyrejšyja kruhi na vadzie, razychodziačyjasia ad miejsca, dzie ŭpaŭ kamień na pavierchniu vady. Padobna-ž i chvali elektro-mahnetyčnyja razychodziacca ad anteny ŭ prastor, ale tolki ŭva ŭsie starony.

Kali napatkajuć takija chvali antenu stancyi atrymovajučaj, paŭstajeć u jej tok źmienny, jak u antenie stancyi vysyłajučaj, tolki mnoha słabiejšy. Davodzicca hety tok da aparatu radyjovaha, dzie jon uzmacniajecca i, adpaviedna pieratvaryŭšysia, idzie da telefoničnaj słuchaŭki abo hałośnika, u jakich čuvać usio toje, što dzieicca pierad mikrofonam stancyi vysyłajučaj.

Kali-ž adlehłaść stancyi vysyłajučaj nie vialikaja (kala 100 klm), to na prymalnych stancyjach užyvajecca vielmi prostych i tannych aparataŭ „kryštałkovych", u jakich tok anteny biez uzmacniańnia pieratvorany jdzieć da słuchavak telefoničnych.

Kožnaja dziaržava maje pa niekalki stancyjaŭ radyjovych vysyłajučych pa bolšych haradoch, majučych časami karysnuju prahramu i dla viosak (lekcyi, muzyka). U našych vioskach možna „słuchać" na aparacik kryštałkavy Vilniu, Miensk, Varšavu, a navat i bolš radyjovych stancyjaŭ.

Apošnim časam udaskanalajuć metodu pierasyłańnia abrazoŭ pry pomačy radyja na vialikija adlehłaści (televizja).

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

Dyk peŭnie-ž niezadoŭha možna budzie bačyć čałavieka na adlehłaści sotniaŭ klm., z katorym havorym pry pomačy radyja.

---

Na zaklučeńnie našaj hutarki prypomnim, što bliskavica, heta mahutnaja elektryčnaja iskra miž chmarami, abo miž chmaraj i ziamloju (piarun) — huk pry hetym jość hromam. Tak vialikija kolkaści elektryčnaści paŭstajuć pry skroplavańni vodnaj pary ŭ chmarach.

Najčaściej udaraje piarun u vysokija pradmiety: drevy, budynki.

Kali-ž udaryć piarun u čałavieka, nastupaje paraliž serca i čałaviek hinie jak udušany; taksama zabivaje mocny elektryčny tok, pierapuščany praz ludzkoje cieła.

Kab uścierahčy budynak ad piaruna, stavicca kala jaho adhromnik (piarunachron); heta vysoki słup, na viarchoch katoraha znachodzicca zavostrany kaniec drotu dałučanaha da blachi, zakapanaj u ziamlu. Ad udaru piaruna baronić tut ściahivajučaje dziejańnie vostraha kanca drotu (byvaje najčaściej platynavy, kab nie ržavieŭ). Baronić adhromnik navakoł słupa na adlehłaść roŭnuju svajoj vyšyni.

---

Jak vynikaje z pieraviedzienych razvažańniaŭ, elektryčnaść addaje vialikije ŭsłuhi u mnohich halinach žyćcia, dziela hetaha pašyrańnie jaje ŭ budučyni zapeŭniena.

Z druhoj starany vynachodak radyja ździejśnivaje daŭnyja pažadańni dumki ludzkoj apanavańnia prastoru, čaho akančalna moža dakanajuć mižplanetarnyja padarožy.

*Stud. fizyki B. M.*

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

Справа Віл. Бел. Гімназіі. 27.V. сёл. г. ў Вільні адбыўся Надзвычайны Агульны Сход Бацькаўскага Камітэту Віленскае Беларускае Гімназіі, на якім у адказ на прапазыцыю Куратара Віл. Шк. Вокругу аб самаліквідацыі гімназіі прынята рэзалюцыя, у каторай рашуча адкідаецца прапазыцыя Куратара і дамагаецца належнае ўрадавае помачы для гімназіі.

Перад прыняцьцем рэзалюцыі Агульны Сход Бацькаўскага К-ту даручыў Прэзыдыюму Камітэту выступіць Віл. Бел. Гімназіі з „Цэнтрасаюзу“ як з палітычнае партыі.

Правакатары працуюць. 22 м. м. частка беларускае моладзі з Віленскай Беларускай Гімназіі і з Дзяржаўнай Вучыцельскай Сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча (якую цяпер польскія ўлады ліквідуюць) выйшла на супольную прагулку ў Бэльмонцкі лес каля Вільні. І вось-жа тут якіясь цёмныя, варожыя і безадказныя тыпы скарысталі з гэтага зборышча і наладзілі быццам камуністычную масоўку, у часе якой адны гаварылі „бойкія" прамовы, частавалі „бутэрбродамі", а другія скрыта і спрытна фатаграфавалі прысутных вучняў.

З гэтае прычыны дырэкцыя Віл. Бел. Гімназіі выкінула 2 вучняў з гімназіі і некалькіх з інтэрнату. Дырэкцыя-ж Вуч Сэм. ім. Фр. Багушэвіча выкінула 3 вучняў і 1 вучаніцу. А польская дзяржаўная паліцыя арыштавала выкіневых і пасадзіла ў вастрог.

На гэты сьвежы сумны факт беларуская моладзь павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу і як мага высьцерагацца падобных правакацыяў з боку нашых ворагаў, якім залежыць на тым, каб нас як-небудзь выдушыць.

Бойкі між студэнтамі. Сябры нядаўна заложанай полёнофільскай студэнскай корпорацыі „Скорынія" пабандыцку нападаюць на сваіх калегаў студэнтаў-беларусаў, непрыхільнікаў іхняе „ідэолёгіі". Апошнім часам (8. VI. с. г.) гэтыя „малайцы", ў памешканьні Беларускага Студэнскага Саюзу, напалі і да крыві пабілі студ. Я. Шутовіча. Уважаем, што на паступкі сяброў „Скарыніі" павінна зьвярнуць увагу ўся беларуская моладзь і адпаведна зганіць.

Экскурсія. 14. VI. с. г. вучні Віл. Бел. Гімназіі V і VI клясы, на чале з сваімі вучыцялямі, выехалі на экскурсію да найвялікшага возера на Беларусі, Нарач, у Пастаўшчыне.

Матура. 7. VI. с. г. кончыліся матуральныя экзаміны ў Віл. Беларускай Гімназіі. Экзаміны здалі і атэстаты сьпеласьці атрымалі абсольвэнты В. Б. Г.: Л. Асаевічанка, К. Акінчыц, Ю. Бабок, К. Чартовіч, А. Хадзінскі, К. Кот, М. Коўшык, А. Казлоўская, Н. Падагель, Я. Шалешка, Л. Багданавічанка і экстэрністы: К. Крук і Л. Стаўбунічанка.

Канцэрт Беларускай Песьні. 4. VI. с. г. Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні наладзіў Канцэрт Беларускай Песьні ў залі Прамыслова-гандлёвага Клюбу, на праграму якога зложыліся выступленьні студэнскага хору пад кіраўніцтвам ведамага беларускага рэгента грам. Г. Шырмы, і пару нумароў солёвых. Выступленьні хору былі вельмі ўдалыя і зьбіралі заслужаныя аплёдысмэнты (воплескі) прыбыўшае многачысьленнае публікі.

15. VI. с. г. тэтысамы хор выступаў ў Віленскім меставым парку ім. Жэлігоўскага.